## Генадзь Тумаш

# Лісіца з Расохі

## /казка/

*(Заканчэнне. Пачатак у № 27-28)*

За грэбляю пачаўся бор духмяны,
Дзе месяц-поўнік асвятляў паляну,
А там у цішыні дрымотнай і глухой
Кажан нячутна лётаў нізка над зямлёй.
Не спіць уночы ні хвіліны кажанок,
У цемнаце казюлек ловіць летунок.
Пара начная – дзень ягоны новы,
Наш дзень цалюткі – ночка кажанова.
Начной парой сава таксама днюе,
А як настане дзень, тады начуе.
І дзядзька, і Андрэй праз лес ішлі ўначы,
Гадалі ўпотай кажаны ды пугачы,
Адкуль вандроўнікі, куды ідуць яны,
Сачылі ўважліва начныя летуны.
Абодва хадакі без перашкоды
Ваўчыныя мінулі пераходы.
Зашамацеў густы чарот непадалёк,
Як узляцеў з перапалоху бугаёк,
Парушыў цішу сонную птушыны крык,
Гучэла "ке-ке-ке", а сам бугайчык знік.

Да досвітку ў лісіны кут паспелі,
Была пара, калі другія пеўні
Шчэ не спявалі ўночы перад золкам.
Свяціла поўня, мігацелі зоркі,
Святло па ўсім узгорку разлілося,
Стаў дзядзька прыглядацца на Расосе,
Прыслухаўся каля нары лісінай,
Была яна пад самаю хваінай.
Маўчала ў нетрах патаемнае жытло,
У ім, здавалася, нікога не было.
Прыкінуў дзядзька, дзе знаходзіцца маглі

Лісіныя хады і сховішча ў зямлі.
Відаць, усе знайшоў бы хутка норы,
Але на вочы трапіліся пёры.
— Пусцілася ліса на хітрыкі і тут,
Пакінула з курамі свой абжыты кут,
У пеўня вырвала з хваста пяро знарок,
Каб мы абшуквалі дарэмна ўвесь грудок.
Пад хвояй паляўнічы пры нары прысеў,
Разлёгся раптам на Расосе гучны спеў.
Не прапусціў пявун сваёй другой пары,
Закукарэкаў голасна ў старым бары.
Запеў разок яшчэ ў мясціне той,
Ды абарваўся голас за дрыгвой.
Злажыўся дзядзька і пальнуў угору –
Далёка стрэл, як гром, каціўся борам.
— Пугач, Андрэйка, падпільноўваў певуна,
Бяжэм, дарога карацейшая адна,
Праз багну, дзе хадзіць не ўсякі будзе,
Баяцца там ступаць нагою людзі.
Ляцелі да балота з горкі баравой,
Абодва сталі перад самаю дрыгвой.
-- Схавалася ліса ў мясціне новай,
Напэўна, куры ў норах барсуковых,
На Аршавай градзе вядуцца барсукі,
Хутчэй за ўсё, маршрут куратніцы такі, —
Пачуў Андрэйка дзядзькаву здагадку,
Калі ступіў на вузенькую кладку.
Бязмежная зямля канчалася на ёй,
Палохала балота чорнай глыбінёй.
Гайдалася дрыгва пад хлапчуком малым.
Вучыў Андрэйку дзядзька, каб ступаў за ім,
Адводзіў страх спакойнаю гаворкай,
Ішоў паперадзе і палкай поркаў,
Каб не наперціся на чортава вакно,
Бо з галавою праглынуць магло яно.
Калі на Аршаву граду ступілі,
Край неба промні ледзь пазалацілі.
Спыніў іх раптам спеў за ўзгоркам галасны,
Збудзіла рэха звонкае абшар лясны,
Ды голас той знаёмы ў сонным лесе,
На жаль, быў зноў недаспяванай песняй.
Адбілася трывога ў дзядзькавых вачах,
За доўгаю градою вухкаў хіжы птах.
— Пугач з засады певуна высочваў,
Стаіўся і чакаў на дрэве ўночы, —
Прыцiснуў паляўнічы стрэльбу да пляча
І двойчы стрэліў, каб спалохаць пугача. –
Хутчэй, хутчэй, Андрэйка,
на той бок грады !
Калі цяпер спазніцца – не мінуць бяды.
Загрукаталі дзядзькавыя боты
Па каранёвых скрутах, пераплётах.
Засопся хлопчык, на пагорак ледзь узбег,
І дзядзька цяжка соп, нібы кавальскі мех.
Крутым пясчаным спадам несліся далей,
Каб трапіць на пячоры.
дзядзька ўзяў правей.
Імчаўся ўслед за паляўнічым хлопчык,
Ды збоку певень крыламі залопаў,
Угледзеў збаўцаў – дзядзьку і Андрэйку,
Даў гучны ім дабрыдзень – кукарэку !
Пабег насустрач ён па дрэве-лежаку
І бліжэй на хваёвым запяяў суку.
Быў лес зачараваны песняй новай,
Лунаў далёка голас певуновы.
Матулю сын успомніў на Расосе,
Як слухаць трэціх пеўняў давялося.
Заўважыў паляўнічы месца бойкі —
Шмат пер'я свежага было пад хвойкай.
За дрэвам зніклі нечакана шпоры,
Пачуўся блізкі шолах у пячоры.
Адтуль на волю выбеглі дзве птушкі,
Пявун стаяў за курыцай-нясушкай.
Да курачкі рабенькае падбег хлапчук,
Падняў яе, не адпускаў у лесе з рук.
Разглядзеў паляўнічы грэбень певуноў,
Сачылася на ім, струменілася кроў.
Андрэйку дзядзька паказаў сляды –
І пух, і пер'е на пяску грады.
Лясное месца бойкі аглядалі,
На ім і певуна ганаравалі,
І курку, што пакінула гняздо пустым,
Не знесла аніводнага яечка ў ім.
— А дзе куратніца ? А дзе зладзейка ? —
Бліжэй да норкі падышоў Андрэйка,
Паслухаў і ўтаропіў вачаняты.
— Што робіць ліска, тое й лісяняты,
Урок давала першы палявання,
А мы закончылі сваё дазнанне.

Вандроўнікі пайшлі дахаты ўранку.



Як выйшлі на расістую палянку,
Аточаную лесам, бы сцяною,
Схіліліся над торбачкай з ядою.
Пасыпаў побач дзядзька грэчкі,
Каб несла курачка яечкі.
Сыпнуў яшчэ буйнога зерня жменю,
Пявун паклікаў курку да ячменю.
Маўклівы лес уранні на Расосе
Птушынае збудзіла шматгалоссе.
Закукарэкаў певень галасіста,
І водгук здоўжыўся ў бары вячыстым.
У гурце сумна не было нікому,
Ды ўсім хацелася хутчэй дадому.
Не заціхала ў час вяртання гамана,
Андрэйка курку нёс, а дзядзька — певуна.
Яны не чулі ад хады знямогі,
Бо ў шчасця крылы ёсць, не толькі ногі.
З нясушкай й пеўніка, з унука й сына
На сцежцы цешылася гаспадыня.
Сачыў каршун, высока ў небе плаваў
Над лугам, над бабуляю ласкавай.
Яна ўгару зірнула, спахмурнела,
Нясушку ўзяць на рукі захацела,
Ды певень з ёй пабег да брамы,
Каб стрэцца найхутчэй з курамі.
Усе вяртанне птушак святкавалі,
Іх куры, гусі, індыкі віталі.
Пявун вяселіў звонкім спевам свята,
На ім прыкметна парадзелі шаты.
У гэты ж дзень дзве куркі-гаварухі
Схадзілі да суседкі-сакатухі.
Ляцелі чуткі на сяле і за сялом:
Марулін певень біўся з пугачом.
Пявун суседні стаў яго баяцца,
Хоць і любіў пры курках выхваляцца.
Ляцела пагалоска з хаткі ў хатку
Пра курыцу рабую, курыцу-чубатку.

Бабуля мела шмат яечак ад яе
І цешылася дужа з курачкі тае.
Апавядаў і блізкі і далёкі свет
Пра пеўня, курыцу, лісу і лісапед.

### СЛОЎНІК

***Андарак*** – спадніца з ваўнянай або напаўваўнянай саматканкі.
***Вярэнька*** – каробка, плеценая з лубу, бяросты, лазы.
***Гарсэт*** – частка традыцыйнага жаночага ўбрання. Гарсэт апраналі паверх кашулі.
***Гаспода*** – хата,жыллё гаспадара.
***Каралі*** – пацеркі.
***Клак*** – пракладка ў патроне, якая аддзяляе порах ад шроту.
***Клецъ*** – гаспадарчая пабудова для захоўвання збожжа, прадуктаў, адзення ды іншых рэчаў.
***Краска*** – кветка.
***Лабяк*** – схіл ці верх пагорка.
***Ладаўніца*** – патранташ.
***Ладунак*** – гільза.
***Ладуннік*** – патранташ.
***Лісапед*** – веласіпед.
***Набой*** – паляўнічы патрон.
***Надоечы*** – зусім нядаўна, колькі дзён назад.
***Ровар*** – веласіпед.
***Селіца*** – луг каля сядзібы.
***Строй*** – убор, адзенне.
***Узлобак*** – невялікае ўзвышша.
***Хвартух*** – частка народнага жаночага ўбору. Хвартух надзявалі на спадніцу.
***Шаты*** – адзенне.

***Шаноўнае спадарства! Тым, хто зможа паспрыяць, каб дзіцячая кніжка "Лісіца з Расохі" ўбачыла свет, просім званіць у Менск па тэлефоне: 263-24-10.—TBM (tbm@tbm.lingvo.minsk.by) Belarusian Language SocietyThu, 22 Jun 100 16:31 +0200 GMT***

# Беларускія думкі Уладзіміра Содаля

## Ужо не хачу

На пачатку свайго прэзідэнцтва А.Лукашэнка яшчэ крыху меў сумлення і, пэўна, не прыроднага, а ідэалагічнага. Хоць на вялікія святы ды звяртаўся да народу на яго роднай мове. Згадаем, для прыкладу, яго прамовы падчас Дня Незалежнасці, Дня Перамогі... Некаторыя верылі, спадзяваліся, што ён вось – вось – пачакайце толькі! – цалкам пяройдзе на родную для Беларусі мову. Сярод тых, хто верыў яму, скажам, была і паэтка Валянціна Аколава. Але мінуў час, а спадзяванні творчай інтэлігенцыі аддаляліся. Лукашэнка ўсё радзей і радзей звяртаўся да роднага слова, а калі звяртаўся, то з грэблівай мінай перакрыўляючы таго ці іншага носьбіта беларускай мовы. І найперш, з апазіцыі. Далей – горш. Пачалі зачыняць беларускія школы. Нашу мову пачалі прынародна зневажаць, і, як гэта нядзіўна, з благаслаўлення самога прэзідэнта.

Спадзяванняў на вяртанне прэзідэнта да роднай мовы не заставалася аніякіх. Больш таго нарадзілася якоесь раўнівае пачуццё. Мне, прыкладам, ужо нават спакваля станавілася смешна слухаць выступленні Лукашэнкі па-беларуску. Адкуль гэта? Чаму? Здаецца, павінна было быць радасць, задавальненне, а ў мяне зусім адваротнае пачуццё. Мабыць такое пачуццё спарадзіў сам прэзідэнт. Ягонае крывадушша перасягнула ўсе межы. Толькі гэтым магу патлумачыць такое сваё адчуванне. Вельмі ўжо вялікі грэх сп. Лукашэнкі перад беларускаю моваю, а праз яе і перад усім славянствам. Такога грэху перад ёй не меў мабыць ніхто ў гісторыі...

Не гэтак даўно зноў напаткаў Валянціну Аколаву. Спытаўся, ці памятае яна тую нашу размову пра Лукашэнку і што яна думае цяпер пра свае спадзяванні. Паэтка на той мой далёкі ўспамін толькі міла ўсміхнулася. Што да мяне, то я больш не хацеў бы, каб прэзідэнт хоць калі карыстаўся нашаю моваю. А чаму – пра гэта я ўжо тут сказаў. З гэтай нагоды чамусь згадалася Купалава: "У беларусаў нікога няма: хай жа будзе ў іх хоць Янка Купала". Пакуль няма то хай будзе хоць Янка Купала. Але ж гэтак доўга доўжыцца не павінна. Павінна ж калі-небудзь Беларусь атрымаць прэзідэнта, які, кажучы Багушэвічавымі словамі, зразумее, што мова – гэта не толькі сродак сумоўя між людзьмі, але і адзежа душы, ключ ад душы і да душы. А пакуль той час не настаў, будзем, як і дагэтуль жылі, жыць з Янкам Купалам. А гэтыя ніколі не падвядуць, не ашукаюць і не здрадзяць.

## Адзін Бог ведае...

- Якая на Беларусі ўлада?
- Вядома ж, не беларуская.
- А якая ж тады?
- А Бог яе ведае...

Каб была беларуская, хіба беларусы ведалі такую паняверку, якую яны маюць зараз? Хіба б улада беларуская, каб яна была беларуская, адраклася ад адной адзінай на Беларусі газету пра мову – "Наша слова", не знайшла сродкаў на яе выданне, кінула б яе на волю лёсу?! А вось тая ўлада, якая зараз на Беларусі, такі кінула. А хіба ж беларуская ўлада, каб яна была беларуская, выгнала Таварыства беларускай мовы з яго сядзібы? А вось тая, што на Беларусі, такі была выгнала... А хіба ж беларуская ўлада, калі б яна была беларуская, вывела б на Дзень Волі 25-га сакавіка бэтээры, сабак, рабіла б аблавы, дубасіла б людзей дубінкамі? А вось цяперашняя ўлада зрабіла ўсё гэта. І гэтак скрозь...

Чыноўнікі, урадоўцы, якія зараз гаспадараць на Беларусі па-дзікунску ігнаруюць беларускую мову, беларускую гісторыю нібыта іх няма і не было. А хіба ж такое магчыма было, каб улада на Беларусі была беларуская:

А вы яшчэ пытаецеся, якая ўлада на Беларусі, ці беларуская яна. Не і яшчэ раз не!

